Ключынскі, М.В. Свабодныя сяляне Беларусі ў часы іграрнага рэмармавання другой трэці XIX ст. / М.В. Ключынскім // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 65-71.

**М.В. Ключынскі**

# СВАБОДНЫЯ СЯЛЯНЕ БЕЛАРУСІ Ў ЧАСЫ АГРАРНАГА РЭФАРМАВАННЯ ДРУГОЙ ТРЭЦІ XIX ст.

Акрамя асноўных груп сялянства (памешчыцкіх, дзяржаўных і цар коўных) у беларускай дарэформеннай вёсцы існавалі адносна нешмат лікія катэгорыі непрыгоннага насельніцтва. Першае месца сярод іх займалі вольныя людзі — асабіста свабодныя жыхары былога Вялікага кня ства Літоўскага, вядомыя яшчэ з XVI ст. Яны папаўняліся пераважна за кошт беглых прыгонных, вайскоўцаў і замежных перасяленцаў. Ня многія з вольных людзей мелі ўласную зямлю. Асноўная маса карысталася надзеламі паводле дагавораў з землеўласнікамі, за што ўносіла чынш ці, радзей, адбывала паншчыну.

Вывучэнне асабіста свабоднага сялянства пачала расійская дарэвалюцыйная гістарыяграфія. Першы агляд катэгорый свабоднага сялян ства Беларусі зрабіў чыноўнік Міністэрства дзяржаўных маёмасцей



У. І. Вешнякоў. Заслугай аўтара стала звядзенне разам і пераказ закона палажэнняў аб кожнай катэгорыі сельскага насельніцтва ў спалучэнні з пагубернскімі зводкамі аб іх колькасці [1; 2]. На больш высокім тэарэтычным узроўні асобныя аспекты гэтай праблематыкі вывучала савецкая гістарыяграфія. М. М. Улашчык, разглядаючы склад насельніцтва Літвы і Заходняй Беларусі, вылучыў сярод разнастайных катэгорый сялян вольных людзей і аднадворцаў заходніх губерняў, а таксама прывёў лічбы аб іх колькасці паводле V—X рэвізій [3]. В. І. Неўпакоеў, які вывучаў аграрнае пытанне ў Літве ў першай палове XIX ст., пачаў распрацоўваць такія праблемы, як пераўтварэнне шляхты ў аднадворцаў заходніх губерняў і лёс вольных людзей [4; 5]. С. М. Самбук, даследуючы ўрадавую аграрную палітыку ў Беларусі ў другой палове XIX ст., разгледзела адпаведныя мерапрыемствы ў дачыненні да вольных людзей і аднадворцаў заходніх губерняў [6]. Сучасныя беларускія даследчыкі таксама звярталіся да гэтай тэмы. В. П. Панюціч вывучаў лёс асабіста свабоднага сялянства ў другой палове XIX ст. [7]. Сацыяль-направавое афармленне свабодных катэгорый сялянства было разгледжана ў шэрагу артыкулаў [8] і падагулена ў манаграфіі У. А. Сосны. Даследчык абгрунтаваў неабходнасць падрыхтоўкі спецыяльных прац па асабіста свабоднаму сялянству, тым больш што «стан крыніц забяспечвае перспектыўнасць гэтай тэматыкі ў даследчыцкім сэнсе» [9, с. 12]. У дадзеным арты куле аўтар, коратка ахарактарызаваўшы становішча свабоднага сялянства ў канцы XVIII — пачатку XIX ст., паспрабаваў прааналізаваць яго лёс у другой трэці XIX ст.

У канцы XVIII ст. расійскі ўрад пад уплывам падзей паўстання 1794 г. і пратэстаў свабодных сялян супраць спробаў запрыгоньвання мусіў прызнаць іх існаванне дэюрэ, пакінуўшы права свабоднага перамяш чэння. Аднак адносіны свабоднага сялянства да памешчыкаў, на чыіх землях яны ў пераважнай большасці пражывалі, не былі заканадаўча вызначаны [3, с. 68]. У першай трэці XIX ст. вольныя людзі былі фактычна пакінуты на волю лёсу. Памешчыкі, скарыстаўшы адсутнасць акрэсленай пазіцыі ўрада ў гэтым пытанні, усімі легальнымі і нелегаль нымі спосабамі пераўтваралі вольных людзей у сваіх прыгонных. Таму колькасць свабоднага сялянства імкліва скарачалася. Калі паводле V рэвізіі на тэрыторыі Беларусі свабодных сялян налічвалася 22 935 душ мужчынскага полу, то VII рэвізія паказала наяўнасць ужо толькі 9131 душы мужчынскага полу гэтай катэгорыі насельніцтва [10, с. 123].

Некаторыя змяненні ў дзяржаўнай палітыцы ў адносінах да асабіста свабоднага сялянства назіраюцца пачынаючы з 30х гг. XIX ст. На лёс



свабоднага сялянства ў значнай ступені паўплывалі палітычныя наступ ствы паўстання 1830—1831 гг., а менавіта імкненне ўрада да аслаблення сацыяльнай напружанасці на вёсцы, умацавання сваіх пазіцый у рэгіё не і аслаблення шляхецкага апазіцыйнага руху.

У другой палове 30х гг. XIX ст. урад пачаў ажыццяўляць разбор вольных людзей — вызваленне незаконна запрыгоненых сялян. Фінансавая зацікаўленасць у гэтым існавала і раней: паводле ўказа ад 20 лютага 1812 г. вольныя людзі, якія пражывалі ў гарадах і на прыватнаўласніцкіх землях, былі абкладзены дадатковым пяцірублёвым падаткам звыш па душнага [11]. Аднак дзейнасць у гэтым накірунку Віленскай казённай палаты ў 20я гг. XIX ст. не дала ніякіх вынікаў. У 1834 г. неадкладна па чаць разбор вольных людзей запатрабаваў сенат. У 1836 г. пры Віленскай казённай палаце было створана Часовае аддзяленне па разбору спраў аб вольных людзях. Праверка праводзілася шляхам супастаўлен ня матэрыялаў V рэвізіі з наступнымі. Усіх запісаных па V рэвізіі ў якасці вольных людзей прадпісвалася вяртаць у ранейшы стан [3, с. 82]. 2 ліста пада 1837 г. Камітэт міністраў зацвердзіў новыя правілы распрыгонь вання вольных людзей, якія вызначалі для памешчыкаў Віленскай гу берні 6, а паза яе межамі — 12месячны тэрмін паведамлення аб коль касці былых вольных людзей. Аднак памешчыкі не спяшаліся рабіць заявы аб былых вольных людзях і неаднаразова ўзнімалі пытанне аб спыненні ўсёй справы па іх разбору. Земскія суды, куды перадаваліся рашэнні аб распрыгоньванні вольных людзей, часта не прыводзілі іх у выкананне [5, с. 393—395]. З 1834 па 1842 г. пры ўдзеле Віленскай ка зённай палаты былі вернуты з прыгоннага стану ў вольныя 15 682 чала векі [3, с. 83]. Калі браць пад увагу толькі беларускія паветы гэтай гу берні, дык поспехі выглядалі куды больш сціпла.

Эканамічнае становішча вольных людзей было даволі складаным. Рэвізор дзяржаўных маёмасцей па Віленскай губерні Арцымовіч у 1838 г. пісаў, што вольныя людзі не ведаюць сваіх правоў. Па яго словах, «памешчыкі і ўладальнікі духоўных і казённых маёнткаў лічаць гэтых людзей нароўні з карэннымі мясцовымі сялянамі, карыстаюцца імі ... па сваім меркаванні, таму людзі вольныя ў сучасным становішчы адроз ніваюцца ад прыгонных адным толькі найменнем і значна большым у параўнанні з апошнімі падушным падаткам». Праз тры гады 26 верасня 1841 г. віленскі генералгубернатар пісаў міністру ўнутраных спраў, што «вольныя людзі, за выняткам прыпісаных да гарадоў і казённых маёнт каў, пражываюць зараз на прыватнаўласніцкіх землях большай часткай без усялякіх дамоваў і адрозніваюцца ад прыгонных сялян, можна ска-



заць, толькі выплатай падвышанага падатку. Зза свайго невуцтва, у якім знаходзіцца гэты клас людзей, яны, акрамя нешматлікіх, якія ма юць уласныя землі, не ведаюць аб нададзеных ім правах і перавагах, ... лічачы сябе нароўні з прыгоннымі, яны не толькі выконваюць усе па віннасці сярод апошніх, але нярэдка падвяргаюцца яшчэ большым пат рабаваннем збоку прыватных уладальнікаў, якія таксама часта не веда юць пра свае абавязкі ў адносінах да вольных людзей, якія жывуць на іх землях». Узровень матэрыяльнага дабрабыту вольных людзей, якія мелі ўласныя землі, быў значна лепшы за тых, хто пражываў на арэндаванай зямлі. Пытанне аб дынаміцы колькасці вольных людзей, якія мелі ўлас ную зямлю, у крыніцах адлюстравана недастаткова. У 1854 г. у Вілен скай губерні з 8518 чалавек абодвух палоў сваю зямлю мелі 1127 чалавек, альбо

13,2 %. У 1837 г. у Гродзенскай губерні ўладальнікаў зямлі сярод вольных людей было 330 чалавек, што складала 10 % [3, с. 84—85].

Адначасова ўрад быў вымушаны ісці на стварэнне новых катэгорый свабоднага сялянства. У выніку разбору шляхты, які ажыццяўляўся на падставе ўказа ад 19 кастрычніка 1831 г., утварылася катэгорыя адна дворцаў заходніх губерняў. У 5 беларускіх губернях, паводле спецыяль нага перапісу аднадворцаў 1842 г., пражывала 21 140 душ мужчынскага полу [2, с. 73], але іх колькасць скарачалася ў выніку перасялення на казённыя землі ў паўднёвыя губерні. Таксама ў 1830—1860х гг. урад ажыццяўляў спробу стварэння яўрэйскіх земляробчых калоній.

З пачатку 40х гг. XIX ст. акрэсліваецца тэндэнцыя да зліцця свабод нага сялянства з дзяржаўнымі сялянамі. Створанае ў 1837 г. Міністэрства дзяржаўных маёмасцей пачынае займацца ўладкаваннем станові шча вольных людзей, якія пражывалі на казённых землях. Па ўказу ад 23 верасня 1840 г. вольныя людзі дзяржаўных маёнткаў былі ўведзены ў грамады дзяржаўных сялян і зраўнаваны з імі ў выплаце падаткаў і вы кананні павіннасцей [12]. Уключэнне значнай часткі вольных людзей у саслоўе дзяржаўных сялян і перавод іх на паніжаны падушны аклад уз мацнілі барацьбу вольных людзей памешчыцкіх маёнткаў за перасялен не на казённую зямлю. У губернскія ўстановы і на «найвышэйшае імя» падаюцца скаргі на свавольства памешчыкаў і прашэнні перапісацца і перасяліцца на дзяржаўную зямлю [5, с. 397].

Закон ад 23 мая 1847 г. перадаваў у распараджэнне Міністэрства дзяр жаўных маёмасцей вольных людзей, якія мелі ўласныя землі. Тых, хто пражываў у памешчыкаў, узяць у сваё падпарадкаванне міністэрства не рашылася [9, с. 93]. Закон быў цесна звязаны з правядзеннем інвентар най рэформы. Адпаведна яму вольныя людзі абʼяўляліся пастаянна па-



селенымі на памешчыцкай зямлі, а на ўладальнікаў апошняй усклада лася адказнасць за іх казённыя павіннасці. Сяляне мусілі заключыць з памешчыкамі дамовы тэрмінам ад 6 да 12 гадоў на працягу года. Урад распаўсюдзіў на іх інвентарныя нормы, прыраўняўшы па «агульных на туральных павіннасцях» на карысць землеўладальнікаў да прыгонных сялян. Грашовая рэнта павінна была залежаць ад узаемнага пагаднення бакоў, а падушны падатак заставаўся ранейшым. За невыкананне пры нятых па дамове абавязкаў вольныя людзі неслі адказнасць сваёй маё масцю, а пры яе недахопе маглі быць накіраваны на выкананне работ на карысць землеўладальніка для вяртання запазычанасці. Пакідаць ма ёнтак у час дзеяння дамовы дазвалялася толькі са згоды памешчыкаў. Пасля завяршэння тэрміну кантрактаў вольныя людзі маглі пераходзіць на ўласныя землі ці да іншых землеўладальнікаў альбо выбіраць іншы свабодны стан, вызначаны законам. Яны маглі сяліцца на землях па мешчыкаў, купцоў і падатковых саслоўяў. Пры перасяленні вольныя людзі маглі разлічваць на грашовую кампенсацыю за ўзведзеныя на ўлас ны кошт будынкі і вяртанне той часткі збожжа, якое захоўвалася ў запасных магазінах [13].

Такім чынам, закон ад 23 мая 1847 г. меў палавінчаты характар. Фак тычна, ён распаўсюдзіў на вольных людзей інвентарныя нормы павін насцей, але не вызначыў для іх норму зямельнага надзелу і не пацвердзіў безумоўнае права на асабістую ўласнасць. Таму сяляне адмаўляліся за ключаць кантракты і патрабавалі перасялення на казённую зямлю. Да 1853 г. у Віленскай губерні кантракты ахоплівалі 4434 рэвізскія душы, а 1975 чалавек дамовы не заключалі. 31 жніўня 1850 г. тым вольным людзям, якія не афармілі дамоў з памешчыкамі, было дазволена запісвацца ў мяшчанскія грамады з наданнем некаторых ільгот у выплаце дзяржаў ных падаткаў і адбыванні рэкруцкай павіннасці. Пры гэтым не патра бавалася згода памешчыкаў і мяшчанскіх грамад. Некаторыя паме шчыкі выкарыстalі ўказ для прыпісвання ў склад мяшчан неплацежа здольных, старых і непрацаздольных вольных людзей. Надзвычай сла бае развіццё прамысловасці ў рэгіёне

не магло забяспечыць вольных людзей працай у гарадах. Большасць з іх разыходзілася па ваколічных казённых і памешчыцкіх маёнтках на сезонныя працы. У ходзе IX рэвізіі ў мяшчанскае саслоўе ў Віленскай губерні запісалася 3055 рэвізскіх душ, а 1643 — прыпісаліся да грамад дзяржаўных сялян [5, с. 400—401].

Адносіны памешчыкаў да вольных людзей рэзка змяніліся, калі па чалася падрыхтоўка да адмены прыгоннага права. Пасля рэскрыпту Аляксандра II на імя віленскага генералгубернатара У. І. Назімава ад



20 лістапада 1857 г. землеўладальнікі, імкнучыся захаваць за сабой як мага больш зямлі, пачалі вяртаць свабоду запрыгоненым вольным лю дзям. У катэгорыю вольных людзей было пераведзена мноства пры гонных сялян. «Палажэнні аб сялянах, што выйшлі з прыгоннай за лежнасці», на аснове якіх на Беларусі ажыццяўлялася сялянская рэ форма 1861 г., нават не ўзгадалі пра дадзеную групу насельніцтва. Шырокае абеззямельванне сялянства выклікала ўзмацненне сялянскага руху, што абумовіла выданне закона ад 21 верасня 1861 г., які спыніў разгляд спраў аб распрыгоньванні вольных людзей і забараніў зганяць іх з зямлі [7, с. 34].

Падзеі паўстання 1863 г. прымусілі ўрад 25 ліпеня 1864 г. выдаць указ аб пазямельным уладкаванні вольных людзей, паселеных на прыват наўласніцкіх землях. З гэтага часу яны перасталі ўтвараць асобны ад сельскіх жыхароў стан і ўвайшлі ў агульны склад сялянскага саслоўя. Абеззямеленыя памешчыкамі пасля 20 лістапада 1857 г. (вольныя людзі 1га разраду) надзяляліся зямлёй з правам выкупу яе нароўні з былымі прыватнаўласніцкімі сялянамі, а пазбаўленыя зямельных надзелаў да гэтага тэрміну (вольныя людзі 2га разраду) пакідаліся на працягу 12 гадоў на становішчы арандатараў са зніжэннем арэнднай платы на 10 %. Пасля сканчэння тэрміну арэнды памешчык меў права выселіць іх з маёнтка. Выкуп зямлі ці заключэнне новага арэнднага пагаднення цалкам пакідаліся ў яго кампетэнцыі [14, с. 108].

Пачынаючы з 1840 г. Міністэрства дзяржаўных маёмасцей прымае меры для сканцэнтравання аднадворцаў заходніх губерняў на казённых землях і зліцця іх з асноўнай масай дзяржаўнага сялянства. Аднадвор цам, якія перасяляліся з памешчыцкіх на казённыя землі, надаваліся пэўныя льготы, у прыватнасці, усталёўваўся чынш, які не перавышаў іх ранейшых плацяжоў [9, с. 97]. Палажэннем Камітэта па справах заходніх губерняў ад 15 снежня 1841 г. аднадворцы, якія жылі на казённых зем лях, уводзіліся ў склад грамад дзяржаўных сялян і абкладаліся роўнымі з імі павіннасцямі і зборамі пры захаванні паранейшаму замест падуш нага падатку падымнага [15].

Рашучы крок да зліцця аднадворцаў заходніх губерняў з масай падат ковага насельніцтва быў зроблены перад пачаткам падрыхтоўкі да аграр най рэформы 1861 г. Указам ад 1 жніўня 1857 г. шляхта, якая не даказала дваранства, залічвалася непасрэдна ў дзяржаўныя сяляне (на казённых землях) і ў вольныя людзі (на памешчыцкіх землях). Аднадворцыўласнікі залічваліся ў дзяржаўныя сяляне на ўласных землях, неаселыя — пры пісваліся да дзяржаўных сялян ці да гарадскіх саслоўяў [9, с. 98].



У канцы 1864 г. быў спынены разбор шляхты. Паводле закона ад 31 снежня 1865 г. усіх не зацверджаных у дваранстве земляробаў, якія самастойна не вызначыліся ў падатковыя саслоўі, прадпісвалася залі чыць у склад дзяржаўных сялян з шэрагам абмежаванняў у асабістых правах [4, с. 22]. Аднак пасля паўстання 1863 г. улады згубілі веру ў па літычную добранадзейнасць апошніх і сталі прыпісваць шляхціцаў да грамад былых прыватнаўласніцкіх сялян [6, с. 39]. Апошнім актам зліцця аднадворцаў з

падатковым насельніцтвам стаў закон ад 19 лютага 1868 г. «Аб увядзенні аднадворцаў і грамадзян заходніх губерняў у агульны склад сельскіх ці гарадскіх жыхароў» [16].

Такім чынам, дзяржаўную палітыку другой трэці XIX ст. у адносінах да свабодных сялян мэтазгодна разглядаць як частку ўрадавага курсу ў галіне аграрных пераўтварэнняў, які рэалізоўваўся ў рэформе дзяржаў най вёскі, інвентарнай рэформе, вызваленні сялянства ад прыгоннай за лежнасці. Пад ціскам палітычных абставін улады былі вымушаны пайсці на стварэнне новых катэгорый свабоднага сялянства, а потым перайшлі да паступовага іх зліцця з дзяржаўнымі сялянамі. Рэформы не здолелі палепшыць становішча вольных людзей памешчыцкіх маёнткаў, якія ў ходзе падрыхтоўкі адмены прыгоннага права апынуліся ў пройгрышнай сітуацыі ў параўнанні з памешчыцкімі сялянамі. Толькі масавыя пратэ сты і паўстанне 1863 г. вымусілі ўлады абараніць іх ад поўнага абеззямель вання. У парэформенны перыяд адбываўся паступовы працэс растварэн ня ўсіх катэгорый асабіста свабодных сялян у агульнай масе вясковага насельніцтва, які завяршыўся канчатковай іх нівеліроўкай.

## ЛІТАРАТУРА

1. Вешняков, В. И. Исторический обзор происхождения разных названий государствен ных крестьян / В. И. Вешняков // Журнал Минва. гос. имуществ. 1857. № 3. С. 87—98.

2. Вешняков, В. И. Исторический обзор происхождения разных названий государствен ных крестьян / В. И. Вешняков // Журнал Минва. гос. имуществ. 1857. № 12. С. 56—96.

3. Улащик, Н. Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Бе лоруссии / Н. Н. Улащик. М. : Наука, 1965. 479 с.

4. Неупокоев, В. И. Преобразование беспоместной шляхты в податное сословие одно дворцев и граждан / В. И. Неупокоев // Революционная ситуация в России в 1859—1861 гг. М. : Наука, 1974. С. 3—22.

5. Неупокоев, В. И. «Вольные» люди Литвы в первой половине XIX в. / В. И. Неу покоев // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1960 г. АН СССР, АН УССР; отв. ред.: В. К. Яцунский [и др. ]. Киев, 1962. С. 390—402.

6. Самбук, С. М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века / С. М. Самбук. Минск : Наука и техника, 1980. 224 с.

7. Панютич, В. П. Социальноэкономическое развитие белорусской деревни в 1861— 1900 гг. / В. П. Панютич. Минск : Навука і тэхніка, 1990. 375 с.



8. Сосно, В. А. Формирование «вольных» людей Западных губерний и слияние их с основной массой крестьянства (конец XVIII — первая половина XIX в.) / В. А. Сосно // Вопросы истории Европейского Севера (Проблемы общественнополитической истории XIX—XX вв.): межвуз. сб. науч. ст. / Петрозавод. гос. унт им. О. В. Куусинена. Петроза водск, 1991. С. 30—38.

9. Сосна, У. А. Фарміраванне саслоўнагрупавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. / У. А. Сосна. Мінск : БДУ, 2000. 115 с.

10. Королева, Е. Г. Численность и структура сельского населения в Белоруссии в кон це XVIII — первой половине XIX в. / Е. Г. Королева // Сельское хозяйство и крестьянство Беларуси: материалы науч. конф., Гомель, 27—29 окт. 1989 г.; редкол.: М. О. Бич [и др. ]. Минск, 1991. С. 108—125.

11. О податях, положенных на поселян разных наименований и мещан, в разных губерниях находящихся: именной, данный Сенату, 20 февр. 1812 г. // Полное собрание

законов Российской империи. Собр. I. Т 32. От. 1. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1830. № 24999.

12. Об изыскании средств к обеспечению благосостояния вольных людей в Вилен ской губернии и исправного платежа ими повинностей: сенатский, по Высочайшему по велению, 23 сент. 1840 г. // Полное собрание законов Российской империи. Собр. II. Т. 15. От. 1. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1841. № 13811.

13. Об устройстве вольных людей, живущих на землях владельческих в Западных гу берниях: Высочайше утвержденное положение Комитета по делам Западных губерний, 23 мая 1847 г. // Полное собрание законов Российской империи. Собр. II. Т. 22. От. 1. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1848. № 21242.

14. Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён: у 3 т.: Гісторыя сялянства Беларусі ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. / З. Е. Абезгауз [і інш. ]; пад. рэд. В. П. Панюціча. Мінск : Бел. навука, 2002. Т. 2. 522 с.

15. Об устройстве быта однодворцев Западных губерний, живущих на казенных зем лях: Высочайше утвержденное положение Комитета по делам Западных губерний, 15 дек. 1841 г. // Полное собрание законов Российской империи. Собр. II. Т. 16. От. 2. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1842. № 15121.

16. О введении однодворцев и граждан Западных губерний в общий состав сельских или городских обывателей: Высочайше утвержденное мнение Государственного совета, 19 февр. 1868 г. // Полное собрание законов Российской империи. Собр. II. Т. 43. От. 1. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1873. № 45505.